 



# Адзін дзень з жыцця «Юных пажарных-выратавальнікаў»

**МАЛАДЗЕЧНА. У пачатку кастрычніка ў клубе "Юных пажарных-выратавальнікаў" цэнтра пазашкольнай работы праводзіліся пажарна-тактычныя заняткі. У іх удзельнічалі работнікі аварыйна-выратавальнай службы "01".**

Вучэнні пачаліся з пастраення каравулаў і здачы рапарта камандзірам штаба клуба **Вячаславам Жалубоўскім**. Умоўнае загаранне ўзнікла ў спартыўнай зале школы №3: па чыёйсьці нядбайнасці загарэўся мат. **Алена Дрозд** і **Караліна Азохава** пабеглі апавяшчаць адміністрацыю школы і выклікаць службу "01". Васьмікласнікі **Павел Ляшковіч, Аляксандр Сямёнаў, Максім Захарыч** і **Руслан Гюльмаліеў** займаліся эвакуацыяй вучняў і ўсяго персаналу ў бяспечнае месца.

У гэты час асобны каравул пачаў тушыць агонь. У ход пайшлі вогнетушыцелі, пясок, вада. На вучэннях прысутнічалі юныя пажарныя з СШ №9, якія і выканалі ролю пацярпелых. Тым часам каманда медыкаў у складзе **Сяргея Глінскага, Веранікі Папок, Сяргея Яршэвіча** і **Антона Крамара** выносіла пацярпелых і аказвала ім першую медыцынскую дапамогу. Неўзабаве з'явілася пажарная аўтацыстэрна. Кожны юны выратавальнік патрымаў у сваіх руках пажарны рукаў са ствалом і пабыў у ролі сапраўднага барацьбіта з агнём. І на заключным этапе заняткаў дзеці вучыліся працаваць з вогнетушыцелямі.



Фота з архіва цэнтра пазашкольнай работы.

**На пажарна-тактычных занятках кожны жадаючы мог папрацаваць з вогнетушыцелямі.**

А напрыканцы вучэнняў былі фотаздымкі на памяць пра сумесную работу.

**Таццяна МІГУРА, кіраўнік клуба "Юных пажарных-выратавальнікаў" ЦПР гарадскога адзела адукацыі.**

■ ГАСТРОЛІ

## Канцэрты ў Польшчы

**МАЛАДЗЕЧНА. З 23 па 28 кастрычніка дэлегацыя з дзіцячай музычнай школы наведае польскі горад Пётркуў-Трыбунальскі.**

Беларусаў запрасіла мясцовая музычная школа. Паедуць 4 ансамблі і асобныя выканаўцы, усяго 50 чалавек. Намеснік дырэктара музычнай школы па вучэбна-выхаваўчай рабоце **Валерый Шкурскі** паведаміў, што маладзечанцы дадуць на польскай зямлі тры канцэрты.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Абласны конкурс спевакоў

**ВІЛЕЙКА. У суботу ў вілейскім Цэнтры культуры прайшоў занальны тур II абласнога агляду-конкурсу выканаўцаў эстраднай песні.**

Удзельнічалі прадстаўнікі горада Маладзечна і Вілейскага, Мядзельскага і Маладзечанскага раёнаў.

Як сказала мастацкі кіраўнік вілейскага Цэнтра культуры **Ірына Новік**, удзельнікі выконвалі па 2 песні - на рускай і беларускай мовах. У фінальную частку агляду-конкурсу выйшла 8 спевакоў, 6 з іх прадстаўляюць Маладзечаншыну, па адным — Мядзельшчыну і Вілейшчыну.

Фінал пройдзе 17 лістапада ў Жодзіне.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СВЯТЫ

## Свята маці ў Смаргоні

**СМАРГОНЬ. У нядзелю ў гарадскім Доме культуры віншавалі жанчын-маці.**

Прайшоў урачысты канцэрт, былі конкурсы, у якіх удзельнічалі і маці. Пераможцаў конкурсаў адзначылі сувенірамі. Тых маці, што нарадзіліся ў кастрычніку, таксама заахвоцілі.

Сярод ганаровых гасцей быў аташэ культуры пры пасольстве ЗША **Джон Кунштадтэр** з жонкай, якая летам наведала шматдзетных бацькоў Смаргоншчыны з дабрачыннымі мэтамі.

Свята падрыхтавалі сацыяльна-педагагічны цэнтр, грамадскае аб'яднанне шматдзетных бацькоў, грамадская арганізацыя "Агеньчык надзеі", раённы аддзел культуры, работнікі якога ў той дзень адзначалі сваё прафесійнае свята.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

■ ДОБРАЎПАРАДКАВАННІ

## Гуд бай, «Амерыка»!

**ВІЛЕЙКА. Амаль адрамантавалі акрабатычную залу па вуліцы Вадап'янава. Там ужо праходзяць трэніроўкі.**

Намеснік загадчыка раённага аддзела па фізічнай культуры і спорце **Валерый Пятроўскі** сказаў, што рамонтныя работы выкананыя працэнтаў на восемдзесят. Тэрмін заканчэння работ — канец кастрычніка. Пачалі залу рамантаваць у канцы жніўня. Агульная сума работ — каля 16 мільёнаў рублёў.

Колькі гадоў дыван, на якім займаліся акрабаты, паціху прагніваў, бо працякаў дах. Бывала, немагчыма было займацца з-за таго, што вёдры з вадой стаялі на дыване і лавілі дажджавыя кроплі. На сцяне паступова з'яўлялася "Амерыка" - так называлі акрабаты і батутысты выяву (мела абрысы гэтай часткі свету), што ўтварылася на месцы, дзе абвалілася тынкоўка. Больш за палову лямпачак не гарэла.

Цяпер пафарбавалі падлогу, залу асвятлілі новыя лямпачкі, са сцяны знікла "Амерыка", а пасля нядаўніх дажджоў са столі не ўпала ніводнай кроплі.

Успамінаюцца часы, калі гэтай залы яшчэ не было. Спартсмены трэніраваліся ў гарадской школе №3. Там, у спартыўнай зале, яны рассцілалі дарожку для скачкоў, дыван, раскладвалі батуты, займаліся позна вечарам — днём у школе праходзілі заняткі. Умовы ў зале на Вадап'янава чымсьці нагадвалі тыя часы. Усё ж такі, нягледзячы на гэта, дзеці трэніраваліся, ездзілі на спаборніцтвы, займалі прызавыя месцы.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ, майстар спорту па спартыўнай акрабатыцы.**

# Экспанаты з Кітая – у Маладзечне

**Апошнія дні працуе ў Маладзечне ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі выстаўка "Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Кітая", пра што газета ўжо пісала.**

Яна прайшла з вялікім поспехам. Выстаўку наведалі вучні ўсіх школ горада, шмат было і дарослых наведвальнікаў.

Акружаны марамі, пустынямі, гарамі, непраходнымі лясмі, на працягу доўгіх стагоддзяў Кітай быў ізаляваны ад іншага свету. Тым не менш, менавіта на яго зямлі ўтварылася адна з першых цывілізацый. Літаратура і мастацтва, навука і тэхніка гэтай старажытнай краіны ўспрымаліся народамі Усходу як эталон. Кітайцы зрабілі найважнейшыя навукова-тэхнічныя адкрыцці: вынаходніцтва паперы, пораху, сейсмографа, компаса, кнігадрукаванне.

Значных поспехаў дасягнулі кітайскія майстры ў тэхніцы адліўкі бронзы, ткацтве, ганчарстве.

Кітай – радзіма фарфору. Кераміку атрымліваюць метадам абпалу гліны пры тэмпературы 800–1000°С, пры гэтым сырэц не мае празрыстасці, убірае вільгаць, з гліны немагчыма атрымаць чысты гук. Для фарфору выкарыстоўваюць адборны каалін. Пасля лепкі, паліванія і роспісу посуд абпальваецца пры тэмпературы 1200–1300°С, пры гэтым праз сценкі вырабу павінна выразна праглядацца святло, ён абсалютна воданепранікальны.

Калі еўрапейскія місіянеры трапілі ў Кітай, кітайскі фарфор стаў вядомы ў Еўропе. Так у 1602–1682 гадах галандска-усходнеіндыйская кампанія вывезла ў Еўропу 16 мільёнаў вырабаў з фарфору. На выстаўцы можна ўбачыць фарфоравыя вазы і піялу з характэрным кітайскім дэкорам. Узнікненне чая, культуры яго вырошчвання і ўжывання звязаныя з будызмам.

Паданне расказвае, як вядомы ў Кітаі Бодхідхарма падчас медытацыі заснуў, што лічылася недапушчальным, нават ганебным. Калі ён прачнуўся, то ў гневе адрэзаў свае вейкі. Яны ўпалі на зямлю і далі парасткі чайнага куста, з лістоў якога пачалі гатаваць цудоўны напітак.

У Кітаі існуе выраз: "Для жыцця неабходна сем прадметаў: дровы, рыс, масла, соль, соя, воцат і чай".

Рытуал чаяпіцця немагчымы без адпаведнага посуду. На выстаўцы можна ўбачыць чайнікі, зробленыя з пурпурных глін, сыравіна для якіх знойдзеная толькі каля горада Йі Ксін. Багатая элементамі жалеза, сыравіна дае пяць колераў: пурпурны, чырвоны, жоўты, зялёны, чорны. За свой дызайн чайнікі былі ўдастоеныя залатых медалёў на многіх міжнародных кірмашах. Імі ў Кітаі шырока карыстаюцца ў быце і калекцыянуюць.

Ваза, зробленая ў тэхніцы мнагаслойнай разьбы па лаку, таксама адзін з экспанатаў выстаўкі. Лак рыхтуюць з лакавай смалы. Смалу, у сваю чаргу, атрымліваюць з надрэзаў кары лакавага дрэва, якое расце ў гарах, на вышыні 900–2000 метраў над узроўнем мора. Разны лак – разьба па лаку, дакладней, па яго слаях, якія адзін за адным наносяцца на аснову ў колькасці ад 38 да 200.

У пахаваннях, якія адносяцца да эпохі Ваюючых царстваў (403–221 гады да нашай эры), знойдзена шмат лакавых вырабаў: падносы, вазы для фруктаў, шкатулкі і інш. Яны праляжалі ў сырым грунце больш за 2000 год і выдатна захаваліся. Пакрытыя лакам прадметы не толькі даўгавечныя, але не баяцца кіслотаў і шчолачаў, вытрымліваюць тэмпературу да 250 градусаў. Самым выдатным па памеры і складанасці дэкарыроўкі вырабам з разнога лаку з'яўляецца трон цынскіх імператараў.

Цікавымі з'яўляюцца вазы з інкрустацыяй залатым дротам, якія вызначаюцца сваім багатым дэкорам. Гэтая каштоўная і рэдкая тэхніка была ўпершыню створаная ў часы дынастыі Тань (618–907 гады нашай эры). Неўзабаве гэтае мастацтва было страчанае. І толькі ў 90-х гадах XX стагоддзя была адноўленая тэхналогія гэтых вырабаў. Гэтыя разнастайныя па форме прадметы з гліны аздобленыя малюнкамі, якія нагадваюць структуру дрэва, кветкі, пер'е. Знешне старадаўняя, кераміка, інкруставаная залатым дротам, мае цудоўныя, падобныя да мармуру, якасці. Яна ўяўляе сабой высокакласную рамесніцкую прадукцыю з вельмі характэрнымі кітайскімі рысамі.

Па-за нашай увагай засталіся прадметы абрадавасці з бронзы (бронзавае ліццё), пано з шоўку (шаўкаткацтва, двухбаковая вышыўка), карціны з металу (плаўка, коўка металу), паветраныя папяровыя змеі (ручны роспіс), але ўсё гэта можна яшчэ паспець убачыць у залах нашага музея ў Маладзечне. Апошні дзень работы выстаўкі – 20 кастрычніка.

Калі вы давядаецеся пра наступную выстаўку, не цягніце да апошняга дня, можаце прапусціць шмат цікавага. Дарэчы, у хуткім часе, 26 кастрычніка, у музеі адкрыецца выстаўка-продаж "Сузор'е камянёў" з Расіі.

**Лідзія КУРЫЛОВІЧ, загадчыца аддзела навукова-асветніцкай работы Мінскага абласнога краязнаўчага музея, Маладзечна.**

■ МАСТАЦТВА І ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ

## Другое жыццё «Паланеза»

**МАЛАДЗЕЧНА. Мастацкі салон "Паланез" за сваю гісторыю паспеў аднойчы зачыніцца, але пасля змены гаспадара ўзнавіў сваю работу.**

Першым уладальнікам салона было музычнае вучылішча. Яго кіраўнік **Рыгор Сарока** распачаў дзейнасць "Паланеза". У салоне можна было купіць мастацкія работы вучняў і настаўнікаў вучылішча. Але салон зачыніўся праз год пасля адкрыцця.

Дырэктар музычнага вучылішча Рыгор Сарока:

– Не было тады сапраўднага гаспадара. Усё ішло праз пень-калоду. Салонам па сумяшчальніцтве займалася лабарантка. Гэтая сістэма была нежыццяздольная. Але знайшліся людзі, якія ўзялі магазін у арэнду і зацікаўленыя нешта зарабіць. І пайшлі справы. Салон працуе кожны рабочы дзень і па суботах. Раней так не было.

"Паланез" сёлетняй вясной адрадзіла прадпрымальнік **Вольга Новікава**.

– Я лічу, што ў Маладзечне павінен быць мастацкі салон, – гаворыць яна. – На маю думку, гэта адзін з паказчыкаў, які вызначае узровень культуры ў горадзе.

Тое, што "Паланез" аднойчы зачыніўся, не палохае цяперашніх уладальнікаў.

– На тое, што "Паланез" не зачыніцца, гарантыі, зразумела, няма. Але тое, што ў падобным магазіне зацікаўленыя і гарвыканкам, і музычнае вучылішча, – гэта факт. Яны ідуць нам насустрач, калі нам патрэбная дапамога.

У кастрычніку з'явіцца афіцыйны сайт "Паланеза". Над ім цяпер працуюць уладальнікі салона. Яны мяркуюць там змясціць карціны, біяграфіі мастакоў. Таксама будуць агляды культурных мерапрыемстваў, якія праходзяць ці толькі плануюцца ў горадзе і раёне.

**Валянціна ТРАЦЯК, Юрый КАРПІЦКІ.**



■ ДНІ



24 кастрычніка – **Міжнародны дзень ААН.**

**100 год з дня нараджэння Я. Глебаўскай** (1901–1978), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.

**90 год з дня нараджэння І. Сайкова** (1911–1989), беларускага спевака, народнага артыста Беларусі.

25 кастрычніка – **90 год з дня нараджэння М. Кавязінай** (1911–1975), беларускай актрысы.

■ КОНКУРСЫ

# Конкурс «Гародніна-велікан»

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак цэнтр пазашкольнай работы правёў конкурс "Гародніна-велікан" сярод вучняў і работнікаў адукацыйных устаноў горада. Адначасова адкрылася выстаўка гародніны, якая працавала тры дні.**

Журы вызначала пераможцаў у шасці намінацыях: кабачок, бульба, морква, капуста, буракі, гарбуз.

| Намінацыі | Пераможцы |
|---|---|
| Кабачок | Сяргей Гнілазуб, 7 "А" клас, СШ №1 |
| | Тацццяна Язубец, 6"А" клас, СШ №6 |
| Морква | Тацццяна Васілевіч, 8"В" клас, СШ №4 |
| Бульба | Ігар Емяльяненка, 7"Б" клас, гімназія |
| Капуста | Алена Саладзінская, 7"Б"клас, СШ №4 |
| Буракі | Аляксандра Басава, 5 "А" клас, СШ №4 |
| | Сяргей Гнілазуб, 7"А" клас, СШ №1 |
| Гарбуз | Мікалай Вірынскі, 7"Г"клас, СШ №2 |

Таксама ўзнагародзілі ўдзельнікаў гародніны арыгінальнай формы. Пераможцамі сталі **Людміла Рак, Канстанцін Бялоў, Ганна Хруцкая, Святлана Бялова**. Прыз глядацкіх сімпатый дастаўся кабачку "Змяя" **Тацццяны Кіпро**.

Пераможцаў узнагародзілі ганаровымі граматамі і падарункамі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**


Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Гэты кабачок прынес сямікласніцы СШ №1 Тані Кіпро прыз глядацкіх сімпатый.**

■ ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Білет у адзін бок

Даўно заўважаю, што практычна ў любой кампаніі ў гутарках усплывае тэма эміграцыі. У кагосьці сваякі за мяжой працуюць, хтосьці наогул паехаў за мяжу і жыве там, прыпяваючы. Эміграцыя або падарожжа з білетам у адзін бок, таму што нішто тут не трымае, – складанае пытанне, пра якое нельга было і думаць у часы жалезнага занавеса. Цяпер жа калі і не сам ад'езд, то хаця б думкі пра яго зрабіліся рэальныя: па апытаннях, каля трэцяй часткі грамадзян пакінулі б Радзіму ў пошуках лепшай долі. Эміграцыя стала, урэшце, і даступная. Амаль у любой газеце поўна інфармацыі пра фірмы, якія садзейнічаюць ад'езду ў Канаду, Аўстралію, Новую Зеландыю і іншыя цывілізаваныя краіны. Нават звычайны аналіз турыстычнага патоку ў суседнюю Польшчу мяняецца ад звыклых шоп-тураў і аква-тураў (тыпу саун і аква-паркаў у Мікалайках) на звычайныя заработкі да тых жа палякаў, якія ўжо не хочуць самі выконваць нізкааплачваемую (па іх мерках) работу. У многіх з нас ёсць знаёмыя, што знаходзяцца на заработках у Чэхіі, Турцыі, Грэцыі, Ізраілі. Спынімся на некаторых момантах, якія змогуць дапамагчы патэнцыяльным кандыдатам на эміграцыю.

Перш за ўсё, трэба памятаць, што выехаць у абраную вамі краіну можна толькі двума афіцыйнымі шляхамі: праз прафесійную эміграцыю з атрыманнем віду на жыхарства і грамадзянства год праз пяць ці праз уезд у краіну ў якасці звычайнага турыста з візай на тэрмін максімум 30 або 90 дзён і застацца ў гэтай краіне ў становішчы нелегала і самому шукаць работу, жыллё і г. д. Першы спосаб патрабуе прафесіі праграміста ці хаця б матэматыка, узрост, пажадана, да 35 год і грошай – усяго тысяч 5 зялёных. Другі, натуральна, больш рэальны і танны, але больш складаны – застацца ў чужой краіне без мовы, без грошай, без работы, без страхоўкі. Але застацца – з рукамі і мазгамі, з надзеямі і вялізным жаданнем не вярнуцца, нягледзячы на ўсе праблемы нелегальнага становішча за мяжой і нягледзячы на абяцаны кожнаму, хто застаўся тут, заработак у 100 долараў ужо ў гэтым годзе. Менавіта таму пасольствы ЗША і Вялікабрытаніі практычна не адкрываюць віз. Менавіта таму сытая Еўропа ўсімі сіламі намагаецца адгарадзіцца ад нас, тых, хто жыве ў СНД.

Цэнтрам прыцягнення для эмігрантаў ужо даўно не з'яўляецца Германія. Калі раней кожны другі імігрант імкнуўся застацца ў ФРГ, цяпер – толькі пяты. Больш за ўсё імігрантаў уязджае ў Вялікабрытанію. Хаця нямецкія правілы для ўезду – самыя ліберальныя ў Еўропе. Нядаўна канцлер **Шродэр** заклікаў яшчэ раз пашырыць спіс прафесій, якія давалі б правы на іміграцыю. Такое права прадастаўляецца спецыялістам у найбольш перспектыўных галінах прамысловасці і навукі, у галінах інфармацыйных тэхналогій. Імігрантам прадастаўляецца віза і дазвол на работу тэрмінам на 5 год, уезд дазваляецца таксама бліжэйшым сваякам. 170 мільёнаў марак выдаткоўваецца на прыцягненне ў краіну вучоных і студэнтаў.

Для таго, каб зменшыць дэфіцыт кваліфікаваных спецыялістаў, у Заходняй Еўропе ў бліжэйшы час будуць прыняты 1,6 мільёна імігрантаў. Некаторыя чыноўнікі прапаноўваюць распрацаваць спецыяльную праграму для імігрантаў, аналагічную амерыканскай Green Card. Супраць нелегальнай іміграцыі (яна ацэньваецца, прыкладна, у 350 тысяч чалавек у год) паўстала Бельгія. Да гэтага часу тых, хто падаваў прашэнне аб прытулку, на ўвесь тэрмін яго разгляду (6 месяцаў) атрымлівалі грашовую дапамогу і доступ да сістэмы аховы здароўя. Калі па выніках разгляду справы ў прадастаўленні прытулку адмаўлялася, імігранты неадкладна не ад'язджалі, а працягвалі заставацца ў краіне. Цяпер Бельгія больш не будзе плаціць патэнцыяльным беженцам, іх будуць карміць і лячыць у цэнтрах для перамешчаных асоб, але наяўныя грошы ўжо выдавацца не будуць. У выпадку адмаўлення імігранты будуць дэпартаваныя. У Партугаліі, насупраць, з мінулага года ўмовы для атрымання віду на жыхарства сталі больш мяккія. Па новым законе нелегальнаму імігранту цяпер дастаткова прад'явіць пашпарт і аформлены па правілах кантракт на работу. Гэта дае права на прыезд у краіну сям'і і на сацыяльныя выплаты з боку дзяржавы. Расце колькасць імігрантаў і ў Брытаніі. Да 2005 года яна дасягне 180 тысяч чалавек.

Па ацэнках спецыялістаў, імігранты зарабляюць больш, чым карэнныя жыхары. І працягласць жыцця ў іх вышэйшая. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што на пераезд у іншую краіну рашаюцца, як правіла, здаровыя людзі. Іх шанцы на доўгае жыццё не змяншаюцца ні беднасцю, ні адсутнасцю медыцынскай страхоўкі. Каб вырвацца і прасунуцца наперад, ім даводзіцца працаваць больш. Імігранты прыносяць краіне больш грошай, чым на іх затрачвае дзяржава. Вялікабрытанія зарабляе толькі на падатках ад даходаў імігрантаў каля 4 мільярдаў долараў у год. У сытай Еўропе з кожным годам настрой супраць іншаземцаў расце з кожным годам. Асіміляваць цалкам і зрабіцца звычайным немцам ці бельгійцам практычна немагчыма. Паспрабаваць зарабіць за мяжой, пажыць нейкі прамежак часу дастойна – пакуль яшчэ рэальна.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 11 кастрычніка | 18 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар | 1487,00 руб. | **1493,00** руб. |
| Нямецкая марка | 694,26 руб. | **689,62** руб. |
| Літ | 371,83 руб. | **373,32** руб. |
| Расійскі рубель | 50,40 руб. | **50,54** руб. |
| Злоты | 357,49 руб. | **365,44** руб. |
| ЕЎРА | 1357,85 руб. | **1348,78** руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1485 – 1500 руб. | **1490 – 1510** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 10.10 | 17.10 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7190 | 7280 |
| Сасіскі, 1 кг | 3180 | 3180 |
| Селядзец, 1 кг | 1750 | 1720 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 520 |
| Грэчка, 1 кг | 420 | 420 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1000 | 1000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 820 | 820 |
| Маянэз, 200 г | 270 | 270 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | 350 |
| Капуста, 1 кг | 150 | 150 |
| Памідоры, 1 кг | 650 | 1000 |
| Лімоны, 1 кг | 1400 | 1500 |
| Апельсіны, 1 кг | 1350 | 1300 |
| Кавуны, 1 кг | 400 | 200 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1200 | 1200 |
| Масла, 1 кг | 2600 | 2600 |
| Тварог, 1 кг | 1000 | 1400 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300 | 1300 |
| Бульба, 1 вядро | 1500 | 1500 |
| Морква, 1 кг | 250 | 300 |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | 250 |

■ АХОВА ПРАЦЫ

# Дадатковы адпачынак

**У якіх выпадках прадастаўляецца дадатковы адпачынак за работу ў шкодных умовах працы работнікам, якія пастаянна працуюць на камп'ютэры?**

Работнікам, якія пастаянна працуюць на вылічальных машынах, згодна з пунктам 126 раздзела XLIII "Агульныя прафесіі ўсіх галін народнай гаспадаркі" Спісу вытворчасцяў, цэхаў, прафесій і пасад са шкоднымі ўмовамі працы, работа на якіх дае права на скарочаную працягласць рабочага часу і дадатковы адпачынак, зацверджанага пастановай Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь ад 29 ліпеня 1994 года №89 (са змяненнямі і дапаўненнямі, зацверджанымі пастановай Мінпрацы Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 2000 года №1), прадастаўляецца 7 каляндарных дзён дадатковага водпуску. На дадзены від адпачынку маюць права ўсе работнікі, незалежна ад наймення іх прафесій і пасад, занятыя поўны рабочы дзень работай на ўсіх тыпах вылічальных машын.

Пад поўным рабочым днём разумеецца выкананне работы ва ўмовах, прадугледжаных Спісам, не менш 80% рабочага часу.

У лік рабочага часу ўключаюцца таксама перыяды, затрачаныя на выкананне падрыхтоўчых, дапаможных, бягучых рамонтных работ па-за сваім месцам з мэтай забеспячэння работнікам працоўных функцый, прадугледжаных вытворча-тэхналагічнымі дакументамі. У лік рабочага часу ўключаецца таксама час рэгламентаваных перапынкаў, устаноўленых Часовымі санітарнымі нормамі і правіламі для работнікаў вылічальных цэнтраў, якія зацверджаны Міністэрствам аховы СССР 2 сакавіка 1988 года №4559-88 і дзейнічаюць да цяперашняга часу ў рэспубліцы.

**Святлана АДАМОВІЧ, вядучы дзяржінспектар працы.**

■ СУВЯЗЬ

# Айчынны канкурэнт «мабільнікам» GSM

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета раённы вузел электрасувязі (РВЭС) сумесна з радыёзаводам "Спадарожнік" распачаў праект па ўсталяванні зонавай сістэмы рухомай радыётэлефоннай сувязі "Вілія".**

Мэта вытворцаў – завабіць у радыётэлефонны сетці як мага больш абанентаў. Пакуль запланавана пабудаваць 8 базавых станцый па горадзе і раёне: 2 – у Маладзечне і па адной – у Чысці, Радашкавічах, Аляхновічах, Хоўхлаве, Беразінскім, Заскавічах. Першы этап выкананы – маладзечанская і чысцінская станцыі пабудаваныя. Сістэмай радыётэлефоннай сувязі "Вілія" у горадзе і раёне карыстаюцца каля 50 абанентаў. У планах – распаўсюджванне сеткі на ўсю Мінскую вобласць.

**Начальнік РВЭС Леанід Валатовіч:**

- Адна зонавая камунікацыйная станцыя абслугоўвае да 800 абанентаў. Карыстанне трубкай "Віліі" спрашчаецца, дзякуючы пяцізначнаму нумару. Мабільнікі GSM выходзяць на сувязь пры наборы 11 знакаў.

Аб вартасцях і недахопах айчыннага віду сувязі расказвае намеснік дырэктара "Спадарожніка" па маркетынгу і збыту **Сяргей Савіцкі**:

– Абанент "Віліі" зможа звязацца з любым горадам: Масквой ці выйсці на Нью-Ёрк. Ён прывязаны да пэўнай зоны абслугоўвання. У параўнанні з трубкамі GSM, партатыўная "Вілія-М" саступае ў дызайне. Якасць работы ў апошніх не ніжэйшая за імпартныя аналагі. Прыняты спецыяльныя меры аховы ад несанкцыянаванага доступу.

Леанід Валатовіч гаворыць, што РВЭС чакае ад гэтага праекта прытоку большай колькасці кліентаў і атрымання большага прыбытку.

Зона дзеяння аналагавых радыётэлефонаў "Harvest-7" і "Senao-258" – каля 30 кіламетраў у прамой бачнасці. Кампактныя і прыгожыя трубкі лёгка змяшчаюцца ў кішэні. Тэлефоны маюць спецыяльны код ад недазволенага ўмяшання. Кошт – 185-380 умоўных адзінак. Звестак аб сертыфікацыі гэтых радыётэлефонаў у Беларусі мы не маем.

Сістэмай сотавай сувязі ахоплена большая зона, чым радыётэлефоннай. І яна пастаянна расшыраецца.

Прапануем параўнальную табліцу тарыфаў на паслугі мабільных сродкаў сувязі у беларускіх рублях.

## Тарыфы на паслугі мабільных сродкаў сувязі

| | Белсел (NMT-450) | VELCOM (GSM) | Вілія |
|---|---|---|---|
| | | беларускія рублі | |
| Кошт апарата | 190000 | 129000<br>251000 | 407000 |
| Падключэнне | 46000<br>90135 | 106000<br>146000 | 194940 |
| Месячная абанентная плата | 15100 | 17200 | 4260 |
| Размовы (за хвіліну) | | | |
| Гарадскія зыходныя | 172 | 350 | 2,8 |
| уваходныя | 0-74 | 0 | 0 |
| Па Беларусі | | | |
| зыходныя | 172 | 350 | 16,5 |
| уваходныя | 0-74 | 0 | 0 |
| Краіны СНД, Еўропы, Балтыі | | | |
| зыходныя | 952 | 1100-3000 | 393 |
| уваходныя | 0-74 | 0 | 0 |

**Вольга КАСЯКОВА.**

■ КУБАК КРАІНЫ

# Упушчаная перамога

## 14.10 Гомель – Маладзечна-2000 2:1 (1:1)

**Арбітр** – Жукаў (Мінск), 2100 гледачоў.

**Галы**: Барэль (28), Кузняцоў (92+); Турчыновіч (18).




**П а п я р э д ж а н н е**: Турчыновіч.

**Лепшыя па версіі "РГ"**: Азаронак, Мігас.

У матчы практычна не было галявых момантаў. Да перапынку, акрамя удалых спроб для ўзяцця варотаў, былі яшчэ па адной у кожнай з каманд. Удар **Кабельскага** парыраваў галккіпер "Гомеля", і ў сваю чаргу **Рубацкі** выратаваў маладзечанцаў. **Турчыновіч** адкрыў лік прыгожым ударам галавою ў скачку, калі знаходзіўся насупраць чужых варот. Пас яму аддаў **Азаронак** пасля праходу па фланзе. Аднавілі лік гаспадары ў хуткай контраатацы – **Барэль** нанес удар у ніжні кут у барацьбе з абаронцам.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Сяргей Тартоўскі (у падзенні) і яго таварышы ўпусцілі нічыю на апошняй хвіліне матча з "Гомелем" і выбылі з розыгрышу Кубка краіны. Справа – Віталь Міхалёў.**

Пасля перапынку "Маладзечна-2000" момантаў зусім не мела. Былі праведзеныя замены **Міхалёва** і Турчыновіча, якім не хапала свежасці. У дадзены арбітрам час **Сысоеў** прастрэліў з фланга ў штрафную нізам. Мяч знайшоў нагу **Кузняцова**, які перакрэсліў спадзяванні нашых землякоў на працяг барацьбы ў кубкавым спаборніцтвы.

Хімік (Светлагорск, Д2) – Белшына 3:0, Днепр-Трансмаш – Лакаматыў (Мінск, Д3) 0:1, Нафтан – Дынама (М) 0:1 (залаты гол), Тарпеда-МАЗ – БАТЭ 1:2, Шахцёр – Нёман-Белкард 2:1, Дынама (Б) – Баранавічы (Д3) 4:0, Славія – Ведрыч-97 2:1 (залаты гол).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# Перамогі дзесяцігадовай даўніны

**Сезон-1991 быў самым лепшым у гісторыі маладзечанскага футбола. Тады "Металург" заваяваў Кубак БССР (10-га жніўня ў фінале дома перамаглі бабруйскі "Шыннік" 2:0), Кубак СССР – "Кубак мільёнаў" (у фінале перамаглі азербайджанскі "Памбыхчы" з Барды 2:1) і стаў чэмпіёнам БССР (датэрмінова афармілі чэмпіёнства пасля перамогі над мінскай "Арбітай" 5:1).**

Пра тыя перамогі успамінае галоўны трэнер "Металурга" **Сяргей Бароўскі**

Даведка. Пакінуўшы Маладзечна, працаваў са зборнай Беларусі, таксама працаваў з клубамі Латвіі і Малдавіі. Цяпер уваходзіць у трэнерскі штаб мінскага "Тарпеда-МАЗа".

### Раслі з Генадзем Карпенкам у адным двары

– Існаванне футбольнага клуба ў Маладзечне пачалося з ініцыятывы тагачаснага дырэктара завода парашковай металургіі **Генадзя Карпенкі**. Ён запрасіў мяне на пасаду галоўнага трэнера. Мы былі знаёмыя з дзяцінства, раслі ў адным двары, разам гулялі ў футбол.

**– Але ж ён старэйшы за Вас.**

– Так. Гадоў 8 розніцы. Аднак гэта не перашкаджала. Калі нехта з дзяцей што-небудзь з сябе ўяўляў як футбаліст, то дарослыя хлопцы з ахвотай бралі ў сваю каманду. Потым ён быў звязаны з футболам як суддзя, я ж выступаў за мінскае "Дынама", зборную СССР. Калі закончыў гуляць з-за траўмы, вучыўся ў інфізкульце, хацеў стаць трэнерам, якраз і прыспела прапанова з Маладзечна.

### Імкненне да перамог

– Мне было цікава пачаць літаральна з нуля, з 2-й лігі чэмпіянату БССР. Каб праявіць сябе ў трэнерскай справе, зусім неабавязкова працаваць з вядомымі, моцнымі камандамі.

**– Тады ў 89-м годзе ў склад уваходзілі выключна мясцовыя гульцы.**

– Мы з імі занялі першае месца і выйшлі ў мацнейшую лігу БССР. Аднак трэба было ўзмацніць склад для далейшых перамог. Першая з іх прыйшла ў 90-м у розыгрышы Кубка БССР (у чэмпіянаце былі чацвёртыя). Яна дала магчымасць у 91-м выступіць у Кубку СССР для вытворчых калектываў (каманд, што не гулялі ў чэмпіянаце СССР). Сезон 91-га стаў трэцім для каманды. Дарэчы, трэці год часта бывае вызначальным у плане поспехаў для тых каманд, якія мэтанакіравана працуюць на вынік. Да нас прыйшлі перамогі ў Кубку і чэмпіянаце БССР, Кубку СССР. Склаўся калектыў не толькі моцны на футбольным полі, але і добры, таварыскі ў быце. Перамогі заўсёды прыходзяць да тых, хто да іх імкнецца.

**– Атрымаўся ў камандзе належны сплаў моладасці і досведу.**

– Так, побач з прызнанымі майстрамі, якія выступалі раней за мінскае "Дынама", **Ігарам Бяловым**, **Аляксандрам Кісценем**, **Сяргеем Гоманавым**, пазней **Георгіем Кандрацьевым** раслі, дадавалі ў майстэрстве маладыя маладзечанцы.

### Права выступіць у чэмпіянаце СССР

**– Статыстычныя падрабязнасці сезона-91 вядомыя, яны ўвашлі ў даведнік аб маладзечанскім футболе. Калі ласка, падзяліцеся сваімі ўспамінамі пра найбольш важныя матчы, пра нейкія нюансы, што прадвызначылі нашы перамогі.**

– У Кубку СССР самым складаным сапернікам быў чэмпіён Ноўгарадскай вобласці "Тарпеда" з Арзамаса. Пазней яно даволі паспяхова гуляла ў расійскім чэмпіянаце. У дамашнім чвэрцьфінале мы перамаглі 2:0, на выездзе саступалі 1:4, аднак знайшлі свой шанец у канцоўцы, забілі вырашальны гол. Тады і праявілася майстэрства каманды, яе характар кубкавага байца. Фінальны матч (ён быў адзіны) давялося праводзіць на выездзе ў Азербайджане супраць тамтэйшага "Памбыхчы". Усім вядома, як часта ўзнікалі пытанні па судзействе, калі справа тычылася каўказскіх каманд. Яны маглі прайграць у гасцях 0:4, а дома перамагчы 5:0. Аднак у гэтай сустрэчы перамог той, хто быў мацнейшы ("Металург" 2:1). Наогул, на працягу ўсяго турніру мы не адчулі на сабе нейкага судзейскага "беспредела". Справа ў тым, што прадпрынялі неабходныя меры, каб ліквідаваць гэтую небяспеку. Нам дапамаглі і супрацоўнікі рэспубліканскай федэрацыі футбола, і кіраўнікі мінскага "Дынама", адбіўся і мой аўтарытэт былога футбаліста зборнай. У Маскве, якая праводзіла жараб'ёўкі, прызначала суддзяў, зразумелі, што каманда ў нас маладая, знаходзіцца на ўздыме, яе нельга ставіць у папярэдне нявыгадныя ўмовы.

**– Не крыўдна было, заваяваўшы права выступаць у саюзным чэмпіянату, не скарыстаць яго, бо прыйшла суверэнная пара?**

– Сапраўды, узровень мацнейшай лігі нацыяльнага чэмпіяната аказаўся ніжэйшы, чым у 2-й лізе СССР. Большасць сапернікаў аказаліся старымі знаёмымі, якіх мы ўжо перамагалі.

**– На матэрыяльнае становішча напачатку 90-х клубу скардзіцца не даводзілася?**

– Пытанні заахвочванняў вырашалі кіраўнікі горада Генадзь Карпенка і **Віктар Ганчар**. Генадзь Дзмітрыевіч узяўся за справу стварэння моцнай каманды, і яго задачай было забяспечыць усё неабходнае для яе функцыянавання.

**– Значыць, асноўныя грошы для клуба знаходзіліся ў нашым горадзе? Цяпер жа іншая сітуацыя. Маладзечна самастойна не можа ўтрымліваць моцную каманду.**

– Так, тады ўсё матэрыяльнае забеспячэнне ішло з Маладзечна. Уласна кажучы, адправіўся працаваць у Мінск Карпенка – і ў выніку пакаціўся пад адхон клуб (дзякуючы намаганням **Людаса Румбуціса** тады ён крыху затрымаўся на станцыі "імперыі Хвастовіча", а цяпер паўстаў з попелу 1 лігі – аўтар).

### Маладзечанская гвардыя

– **Аляксандр Вяжэвіч** даказаў, што не дарэмна называецца адным з лепшых нападаючых краіны. Выклікаўся ў зборную, гуляў у мінскім "Дынама", пакаштаваў легіянерскага хлеба, цяпер абараняе колеры лідэра чэмпіянату "Белшыны". Шмат карыснага прынес той камандзе **Віталь Казяк**, наша "электрычка", аддаваўся гульні з апошніх сілаў. Вельмі здольны варатар **Мікалай Абрамовіч** так да канца і не раскрыў свой патэнцыял. Прычына ў непрафесійным падыходзе да справы. Па сваіх фізічных якасцях, адоранасці мог бы быць адным з лепшых у Беларусі. **Александра Лебедзева** я выклікаў з эстонскага Тарту, а ў Маладзечне ён абзавёўся сям'ёю. Прафесіянал, надзвычай самаадданы футбаліст. **Уладзімір Галубко** стаяў ля вытокаў каманды, быў гуляючым трэнерам, заўсёды вакол яго збіраліся маладыя гульцы. У 89-м, 90-м гадах бывалі матчы, якія ён выйграваў ледзь не ў адзіночку.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**13.10 Смаргонь – Трактар (Мінск) 2:0 (1:0)**

**Галы**: Шаблінскі (19), Кошаль (84).

**Склад**: Шэлест, Шаблінскі (Відук, 74), Чарнуха, Курак, Якубіцкі, Шпілеўскі, Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч, Шагойка (Паркулевіч, 86), Шпакоўскі (Кошаль, 70).

**13.10 Забудова – Старыя Дарогі 1:2 (0:0)**

**Галы**: Ваўчок (65); (80), (89).

**Склад**: Мядзведзеў, Івашкевіч, Д. Мятліцкі, Грыхуцік, М. Мятліцкі, Урублеўскі, Міравовіч, Садчанка, Татун, Чарнель, Ваўчок.

На 90 хвіліне Татун не рэалізаваў пенальці.

**17.10 Старыя Дарогі – Смаргонь 1:2** (Шагойка, Шаблінскі)

**17.10 Вертыкаль (Калінкавічы) – Забудова 2:0.**

■ ДУБЛЬ

**17.10 Маладзечна-2000 – Тарпеда-МАЗ (Мінск) 2:1 (2:0)**

**Галы**: Вільтоўскі (7), Сідарэнка (28); (57).

**Склад**: Сцепановіч, Дрозд, Відрук (Пятроўскі, 46), Муравейнікаў, Ваўчок, Лявончык, Антановіч (Харэцкі, 46), Багайчук, Альховік (Абановіч, 89), Вільтоўскі, Сідарэнка (Матусевіч, 46).

Футбаліст "Тарпеда-МАЗа" выдалены на 41-ай хвіліне.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Конкурс

# Восем лепшых яшчэ пазмагаюцца



Рэдакцыя атрымала 26 адказаў на пытанні першага этапа. Большасць з іх – дваццаць – даслалі маладзечанцы. Восем удзельнікаў (маладзечанцы **Ігар Міцкевіч, Анатоль Шпілеўскі, Андрэй Верыч, Алег Вірынскі, Уладзімір Лазучонак, Аляксандр Пушкарэвіч, Вадзім Сярпейка** і смаргонец **Мікалай Кіндра**) правільна адказалі на ўсе шэсць пытанняў. Пяць дакладных адказаў у дванаццаці чалавек, чатыры – у двух, тры – у аднаго, яшчэ трое маюць па два правільныя адказы.

Такім чынам, аднаасобны пераможца першага этапа пакуль не высветлены. Гэта будзе зроблена на другім этапе. Хто з васьмёркі лепш адкажа на новыя пытанні, той і будзе лічыцца пераможцам першага этапа.

Натуральна, на другім этапе будзе высвятляцца і свой пераможца сярод усіх удзельнікаў. Нагадаем, на кожны этап выстаўляецца 2 літры піва ад бара "Тайм-аут", што размешчаны на маладзечанскім стадыёне справа ля ўвахода.

У далейшым таксама, калі некалькі чалавек займеюць аднолькавыя найлепшыя паказчыкі на нейкім этапе, то лепшы з іх будзе высвятляцца на наступным.

**Адказы на пытанні першага этапа:**

1. Б – Венгрыя. 2. Б – Афрыка. 3. В – Тры футбалісты. 4. Г – Людас Румбуціс. 5. Б – Толькі за "аснову". 6. В – Максім Пясецкі.

### Пытанні другога этапа

**Міжнародны футбол**

1. Хто з гэтых футбалістаў завяршыў з-за траўмы сваю бліскучую кар'еру?

А – Марка ван Бастэн. Б – Дідзье Дэшам. В – Дыега Марадона. Г – Ранальда.

2. 30 кастрычніка матч Лігі Чэмпіёнаў "Лакаматыў" (Масква) – "Рэал" (Мадрыд) завершыцца

А – перамогай "Лакаматыва". Б – унічыю. В – перамогай "Рэала" з розніцай у адзін альбо два мячы. Г – перамогай "Рэала" з розніцай у тры ці больш мячоў.

**Беларускі футбол**

3. Якая з гэтых каманд толькі аднойчы падчас нацыянальных чэмпіянатаў змяняла сваю назву?

А – "Белшына" (Бабруйск). Б – "Дынама" (Брэст). В – "Лакаматыў-96" (Віцебск). Г – "Маладзечна-2000".

4. 30 кастрычніка перанесены матч вышэйшай лігі "Тарпеда-МАЗ" (Мінск) – БАТЭ (Барысаў) завершыцца

А – перамогай "Тарпеда-МАЗа". Б – унічыю 0:0. В – унічыю, але не 0:0. Г – перамогай БАТЭ.

**Рэгіянальны футбол**

5. 27 кастрычніка матч другой лігі "Пінск-900" – "Смаргонь" завершыцца

А – нявыйгрышам "Смаргоні". Б – перамогай "Смаргоні" у адзін мяч. В – перамогай "Смаргоні" у два мячы. Г – перамогай "Смаргоні" у тры ці больш мячоў.

6. 27 кастрычніка матч другой лігі РВАР (Мінск) – "Забудова" завершыцца

А – перамогай РВАРа. Б – унічыю 1:1. В – унічыю, але не 1:1. Г – перамогай "Забудовы".

**Звярніце ўвагу.** 26 кастрычніка (пятніца) – апошні тэрмін атрымання адказаў. **Адказы можна прыносіць у рэдакцыю, дасылаць на адрас рэдакцыі, дасылаць на E-mail konkurs@tut.by**

## На гэтым тыдні гуляюць

**21.10 16-00 Смаргонь – Вертыкаль (Калінкавічы)**
+2=0-1 4-2. У першым крузе 1:0 (Дзігілевіч) на выездзе.

**21.10 15-00 Забудова – Пінск-900**
+1=0-0 3-2. У першым крузе 3:2 (Дзіковіч, Татун, Міравовіч) на выездзе.

**21.10 (дубль) Белшына (Бабруйск) – Маладзечна-2000**
+1=0-0 3-2. У першым крузе 3:2 (Млечка, Смірноў, Антановіч) дома.

**22.10 Белшына – Маладзечна-2000**
+3=5-6 19-18. У першым крузе 0:0 дома.

**25.10 15-00 (дубль) Маладзечна-2000 – БАТЭ (Барысаў)**
+0=0-1 1-3. У першым крузе 1:3 (Відрук) на выездзе.



# ВІНШАВАНКІ

Дарагая **Лізачка**!

Віншуем з днём нараджэння!
Хотим, чтоб ты была красивой,
Не распыляла чувства зря.
Будь желанной и любимой,
Какой мы знаем тебя всегда.
*Твая сям'я.*

Дарагому і любімаму **Геначку Кісялю**. В день рожденья для тебя светит солнышко любя. Пусть наполнится твой дом счастьем, радостью, добром!!! *Ад тваёй Алеські.*

Віншуем дарагую мамачку і бабулю **Т. М. Мацко** з днём нараджэння! Жадаем усяго самага найлепшага ў жыцці. *З любоўю, сям'я Мацко.*

Віншуем **Таццяну і Аляксея Крэмзаў** з нараджэннем дачушкі. Шчасця, здароўя, светлага будучага малышцы. *Квяткевіч, Паўлоўская, Баравая, Грышкевіч.*

**Галіне Уладзіміраўне Шаўроўскай**. Віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, дабра, здароўя без лекаў і доўгага веку. *Родныя.*

Дарагая **Вольга**! Віншую цябе з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя і ўсяго найлепшага ў жыцці. *Твой сябар Паша.*

Віншуем з днём нараджэння **Вольгу Юр'еўну Каспяровіч**! Шчасця, моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту. *Дзядзя Валодзя, цёця Зіна Шылко.*

Віншуем з днём нараджэння **Вольгу Губанаву** з Маладзечна! Жадаем шчасця, кахання, здароўя, поспехаў у вучобе. *Ад калег фірмы "Бухлус".*



# ЗНАЁМСТВЫ

Удавец, 51/160/67, дзеці ўладкаваныя, шукае другое крыло, жыллём забяспечаны. Маладзечна, галоўпаштамт, пашпарт МС0121797.

Жанчына 47/156/60, якой надакучыла адзінота, спадзяецца сустрэць надзейнага мужчыну для сямейнага жыцця. Маладзечна-6, п/д С 158891.

Інвалід 2 гр., 32 гады, з жыллём, спакойны, без шк/зв., пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і. 222310, Маладзечна-7, МС0487030.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Па тэхнічных прычынах у мінулым нумары сярод пераможцаў чарговага этапа нашага конкурсу не былі ўказаны **Анатоль Шпілеўскі** (ён, дарэчы, самы першы даслаў адказ) і **Таццяна Семашкевіч**.

Прабачэнні ўдзельнікам.

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

– Паслухайце, – кажа выкладчык, – вы трэці раз прыходзіце на пераздачу. Чаму вы не вучыцеся? У рэшце рэшт, ад вучобы яшчэ ніхто не паміраў!

– Я ведаю, – кажа студэнт, – але лепш не рызыкаваць.

■ ІМЯНІНЫ

**19 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Фамы.
**Каталіцкія**: Земавіта, Пятра, Яна.

**20 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Пелагеі, Ґервасія, Сяргея, Юльяна.
**Каталіцкія**: Ірэны, Яна.

**21 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Пелагеі, Таісіі, Трыфана.
**Каталіцкія**: Урсулы, Гіляра, Якуба.

**22 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Афанасіі, Абрама, Андроніка, Максіма, Пятра, Якава.
**Каталіцкія**: Саламеі, Марка, Філіпа.

**23 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Амбросія, Амфілохія, Андрэя, Кір'яка, Феафіла, Яўлампія.
**Каталіцкія**: Тэклі, Севярына, Тодара, Яна.

**24 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Зінаіды, Піліпа, Феафана.
**Каталіцкія**: Антона, Марціна, Рафала.

**25 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Амфілохія, Івана, Кузьмы, Марціна.
**Каталіцкія**: Дар'і, Баніфата, Пятра.

■ ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Мінусовы паказчык Дзяніса Мятліцкага

**Сёння мы вырашылі не абмяжоўвацца толькі канстатацыяй цікавых фактаў з каляспартыўнага жыцця, а дадзім слова ўдзельнікам.**

Абаронца чысцінскай "Забудовы" Дзяніс Мятліцкі разам са сваім бацькам Мікалаем стабільна гуляюць у асноўным складзе каманды. Абодва рэгулярна вызначаюцца. Часцяком не заўсёды добрымі паводзінамі і гульнёй.

Сёння ў нас у гасцях Мятліцкі-малодшы. Як і падабае сапраўднаму абаронцу, Дзяніс сёлета мае 5 жоўтых і адну чырвоную картку. Забіў па голе ў свае і чужыя вароты.

– А ўвогуле, сабе каля сямі галоў прывёз. Усялякае здараецца, але ад факта не адмовішся.

У атаках Дзяніс таксама бярэ ўдзел.

– Не лічыў, але 4-5 галявых перадач на сваім рахунку маю.

Калі скласці лічбы, атрымаецца мінусовы паказчык: восем – сабе, шэсць – іншым. Але гэта толькі сухія лічбы. Тым не менш, сёлета Дзяніс ні разу не парушыў правілы ў межах штрафной.

На наступны год ён плануе пакінуць родную каманду.




Куды будзе ляжаць шлях "маладога байца", пакуль сакрэт. На заканчэнне яшчэ адна прымета чысцінца:

– Калі нам білі пенальці, я 2 разы пераступаў мяч. Абодва пенальці нам не забілі.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ШАШКІ

## Прыз – кальсоны

Шашачныя спаборніцтвы разнастайныя не толькі формамі іх правядзення, але і ўзнагародамі па іх выніках. У старажытнай Грэцыі ў якасці закладу часам выстаўляліся рабы. **Пётр I** у знакамітых асамблеях спецыяльна ўвёў шашачную гульню. Баяры, якія мелі няшчасце прайграць цару, вымушаныя былі расставацца са сваім гонарам – барадой. Аднаго разу нейкі баярын 3 разы запар абыграў Пятра. За гэта яму было дадзена права назаўсёды заставацца з барадой.

У канцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя ў галандскім горадзе Амстэрдаме быў арганізаваны міжнародны навагодні шашачны турнір, які зрабіўся пазней вельмі папулярным. Ён атрымаў потым назву "Цукровы". Праводзіўся турнір пад эгідай Нідэрландскага Каралеўскага шашачнага саюза і фінансаваўся вытворчым аб'яднаннем "Галандская Цукровая Індустрыя". Першыя тры прызы пераможцам адпавядалі 1500, 1000 і 500 гульдэнам, а аўтсайдэр турніру ўзнагароджваўся суцяшальным прызам – мяшком цукру, вага якога была роўная вазе ўладальніка прыза. У першым турніры 1969 года такі лёс напаткаў мінчаніна **Анатоля Гантварга**. Праўда, праз год ён ужо стаў тут пераможцам, а француз, швейцарац і галандзец, якія замкнулі табліцу з аднолькавай колькасцю ачкоў, па чарзе запрашаліся да вялікіх вагаў і стаялі там да таго часу, пакуль пачкі цукру не ўраўнаважвалі іх. Так і праходзіла цырымонія ўручэння суцяшальных прызоў.

Інакш адчувалі сябе аўтсайдэры ў іншым спаборніцтве, калі за апошняе месца прылюдна ўручаліся кальсоны. Тут самая напружаная барацьба вялася за тое, каб не апынуцца ўнізе турнірнай табліцы і не стаць уладальнікам споднікаў.

А вось які выпадак адбыўся падчас правядзення аднаго з міжнародных шахматных турніраў. Чэмпіёна свету **Эмануіла Ласкера** і выдатнага венгерскага шахматыста **Геза Мароці** запрасіў да сябе на святкаванне Новага года амерыканскі мільянер, шахматны мецэнат. Перад вячэрай гаспадар і шматлікія госці прапанавалі гросмайстрам згуляць сяброўскую партыю, на што яны з задавальненнем пагадзіліся. У спецыяльным пакоі ўжо загадзя ўсё было падрыхтавана да гульні, а яе ўдзельнікаў чакаў сюрпрыз. На вялікай дошцы стаялі адпаведных памераў фігуры-ёмістасці, напоўненыя рознымі алкагольнымі напіткамі ў залежнасці ад сілы фігуры. Пешкі, напрыклад, лікёрам, а ферзь – паўлітрам каньяку.

– Каб гуляць вам было цікава, – сказаў гаспадар, – пераможцу чакае прыз – 1000 долараў, але пры ўмове, што калі шахматыст бярэ фігуру саперніка, то павінен выпіць яе змесціва.

Умовы былі прынятыя. Ласкер, тонкі псіхолаг, якому па жараб'ёўцы дастаўся белы колер, разыграў не лепшы пачатак. Мароці, які нічога не падазраваў, адказаў, згодна з тэорыяй. 1. e2-e4 e7-e5 2. Fh5 Kc6. Трэцім ходам Ласкер нечакана збівае пешку 3.F:f7+! Чорныя вымушаныя былі здацца, бо перад імі паўстаў выбар: атрымаць мат або ўзяць ферзя і выпіць паўлітра каньяку.

Год з дваццаць таму пераможцаў аднаго з турніраў у Мінску адзначылі бутэлькамі каньяку, шампанскага і сухога віна, за што арганізатары гэтага "шоу" былі пакараныя, а ў прэсе з'явіўся адпаведны фельетон.

А цяпер для самастойнага рашэння прапануецца эцюд выдатнага шашыста Расіі пачатку XIX стагоддзя **Аляксандра Шошына**. Складанасць пазіцыі заключаецца ў тым, што простая чорных знаходзіцца на перададамачным полі, а трапіўшы ў дамкі, папярэдне ахвяруючы другую сваю шашку і заняўшы вялікую дарогу, дабіваецца нічыёй. Таму дзеянні белых павінны быць неадкладныя і трапныя.




Белыя: дамка a5, простыя a3, f2 (3).

Чорныя: простыя a7, h2 (2).

Ход і выйгрыш белых. Таго, хто першы рашыць эцюд і дашле адказ, чакае прыз – рэдкая кніга "Рускія шашысты". Поспехаў вам і творчай радасці.

А цяпер праверце правільнасць рашэння пазіцыі, змешчанай у "РГ" за 7 верасня гэтага года.

Да мэты вядзе 1. gf2 bc3 (1... ba5 2. fg5 f:h2 3. he5 x) 2. fe5 f:d4 3. hg1 cd2 4. fe3 x.

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Салата з бульбы з марынаванымі грыбамі

**500 г бульбы, 500 г марынаваных грыбоў, 3 яйкі, звараныя крута, 50 г алею, 100 г смятаны, 1 лыжачка гарчыцы, 1 лыжачка воцату, цыбуля , цукар, соль.**

Вараную бульбу нарэзаць кубікамі, спырснуць алеем, пасаліць, пакласці ў салатнік, чаргуючы з марынаванымі грыбамі, паліць запраўкай, пасыпаць сечанымі бялкамі, перамяшанымі з нарэзанай цыбуляй. Упрыгожыць салату маленькімі грыбочкамі. Каб прыгатаваць запраўку, жаўткі расцерці з гарчыцай, дадаць алей, смятану, соль, цукар на смак, воцат, перамяшаць.

## Кававы дэсерт з ягадамі

**500 г замарожаных ягад, 4 жаўткі, 15 г цукровага пяску, 100 мл моцнай кавы, 2 лыжкі каваvага лікёру мока, 4 сталовыя лыжкі стружкі белага шакаладу.**

Ягады размарозіць. Крыху ягад адкласці для ўпрыгожвання дэсерту, а астатнія раскласці па шклянках. Жаўткі з цукровым пяском, кавай і лікёрам узбіваць венчыкам на гарачай паравой лазні да ўтварэння густой шчыльнай пены. Затым паставіць міску з узбітымі жаўткамі ў ледзяную ваду і працягваць узбіваць да поўнага загусцення. Выкласці атрыманую масу ў шклянкі з ягадамі і ўпрыгожыць ягадамі зверху. Насыпаць у кожную шклянку па 1 лыжцы шакаладнай стружкі. Адразу ж падаваць на стол.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 42

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

